№ 43 (1108)
Субота, 3 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодна.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



## Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Па паўднёва-заходняй частцы снег, мокры снег, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер пераменных напрамкаў, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — каля 0, Мінску — 0...+2, Брэсце, Гродне, Гомелі — +1...+3.

У наступныя двое сутак: 4-га ўначы — на большай частцы снег, месцамі моцны, на поўдні з дажджом; удзень па паўночным усходзе невялікі снег, 5-га — часам ападкі, месцамі галалёд. Вецер пераменных напрамкаў, 4—9 м/с; 4-га на працягу сутак +3...-2, уначы па поўначы да -5; 5-га ўначы — -2...-7, удзень каля 0.



## Навіны

### "Рэзанатара" паклічуць у суд

**Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская звярнулася ў суд Першамайскага раёна з просьбай абавязаць Нацыянальную тэлерадыёкампанію абвергнуць выпады супраць прафсаюзаў, даць магчымасць выступіць па Беларускім тэлебачанні прадстаўніку ФПБ.**

У заяве гаворыцца, што ў фільме "Тайныя спружыны палітыкі", які выйшаў у эфір 20 студзеня гэтага года, сцвярджаецца: ці выпадкова Федэрацыя прафсаюзаў, дзейнічаючы па іезуіцкім прынцыпе "чым горш — тым лепш", рассылае па свеце даносы ў міжнародныя арганізацыі, дабіваючыся ўвядзення санкцый супраць Беларусі?

У допісе ў суд ФПБ паведамляе, што такое сцвярджэнне не адпавядае рэчаіснасці. Усё наадварот. Кіраўніцтва ФПБ двойчы звярталася ў буйнейшы прафцэнтр ЗША з просьбай паўздзейнічаць на ўрад сваёй краіны з мэтай недапушчэння эканамічных санкцый у адносінах да Беларусі.

Аргументавана абвяргаюцца і домыслы наконт дзейнасці прафсаюзаў, якія прагучалі ў праграме "Рэзананс" 11 лютага. Так што аўтарам згаданых праграм, відаць, давядзецца даваць паказанні ў судзе.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

### Прадпрымальнікі не супакоіліся

**У красавіку гэтага года ў Беларусі можа прайсці месячная забастоўка індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках. Пра гэта было заяўлена на прэс-канферэнцыі ў Мінску з удзелам кіраўніцтва страйкавага камітэта прадпрымальнікаў.**

Паводле слоў старшыні страйкама Валерыя Леванеўскага, забастоўка пачнецца ў выпадку, калі ўлады не выканаюць патрабаванні, вылучаныя падчас аднадзённай забастоўкі прадпрымальнікаў 28 лютага. Гэта — недапушчэнне павышэння ставак фіксаванага падатку, зніжэнне кошту арэнды гандлёвых месцаў, адстаўка старшыні Дзяржаўнага падатковага камітэта.

Паводле звестак страйкама, у забастоўцы 28 лютага ўзялі ўдзел больш чым 160 тысяч прадпрымальнікаў і асоб, працуючых па найме. Як заявіў Леванеўскі, акцыя "прайшла нядрэнна". Пры гэтым ён канстатаваў памяншэнне колькасці бастуючых, якая раней дасягала 200 тысяч.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**



## "Помніце пра гэта, сціскаючы дубінкі"!

**Як вядома, 4 сакавіка наша міліцыя адзначае сваё прафесійнае свята. Маладзёжнае крыло АГП разам з Алесем Карніенкам падрыхтавала чарговую акцыю — у нядзелю, 4 сакавіка, група ў складзе некалькіх студэнтак мінскіх ВНУ зробіць аб'езд некаторых мінскіх РАУС і ўручыць беларускім абаронцам правапарадку кветкі і віншаванні наступнага зместу:**

*Суайчыннікі!!!*

*Мы віншуем Вас з Днём беларускай міліцыі!*

*Мы адзін народ, але па волі аднаго чалавека і яго памагатых мы некалькі гадоў знаходзіліся па розныя бакі барыкад.*

*Успомніце, такога не было амаль да 1994-га. Былі мітынгі, палітычныя баталіі, але яны праходзілі ў сценах парламента, у тэле- і радыёэфіры, на старонках газет. Былі пікеты, мітынгі і дэманстрацыі, але не было масавых арыштаў, штрафаў, збіванняў. Вы скажаце: "Гэта загад!" І мы часткова гатовы зразумець, часткова гатовы прабачыць. Але просім памятаць: тыя, хто выходзіць на вулічныя акцыі — не "отморозки", не агенты разведак, а вашы браты і сёстры. Яны проста хочуць для сябе і нашай Радзімы, усяго нашага народа лепшай долі.*

*Помніце пра гэта, сціскаючы дубінкі.*

*У гэтым годзе павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары, і мы верым, што супрацьстаянне спыніцца, верым, што каму-небудзь прыйдзецца сысці з палітычнай сцэны.*

*І тады мы сядзем за адзін стол і вып'ем за Ваша здароўе, за здароўе нашых братоў, беларускіх міліцыянераў.*

*А цяпер мы вып'ем за нашу перамогу.*

**Ул інф.**



# Брама неўміручасці

## 5 сакавіка — 105 год з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы



**Імя яго ведае кожны. Яго байкі чытае на памяць, а п'есы глядзіць у тэатрах ужо не адно пакаленне. Ён сапраўды народны пісьменнік, класік нацыянальнай літаратуры, які ўзбагаціў яе залаты фонд бліскучымі ўзорамі сатырычнага жанру.**

**Сведка і непасрэдны ўдзельнік многіх гістарычных падзей, ён не толькі адлюстраваў сваю супярэчлівую, напоўненую бурамі эпоху ў па-мастацку завостраных, дасціпных, маляўнічых вобразах, але і надзяліў іх незвычайнай жывучасцю. Таму яго яркія творы і перш за ўсё — незабыўныя камедыі "Хто смяецца апошнім", "Пяюць жаваранкі", "Брама неўміручасці", як і трапныя, бязлітасныя вершаваныя выпады супраць усяго, што ганьбіць чалавека, што забруджвае паветра народнага жыцця і павінна быць вымецена з яго, — ужо сягнулі за межы свайго часу і надоўга застануцца з намі.**

**Кандрат Крапіва — выдатны майстар слова, навуковец, грамадскі дзеяч — усім сваім жыццём стварыў сабе велічную Браму неўміручасці і заняў пачэснае месца ў народнай памяці.**

**Мы друкуем яго бессмяротныя байкі.**

### Вол і авадзень

*Гарачым летнім днём*
*Вол з ворыва вяртаўся.*
*Напрацаваўся, аж хістаўся.*
*За ім жа куча аваднёў*
*Ляцела роем.*
*Вядома тут, з якім настроем*
*Ісці мог Вол:*
*Глядзеў сярдзіта навакол,*
*Махаў хвастом, круціў рагамі*
*І біў па чэраве нагамі.*
*— А, сябар!.. Добры дзень! —*
*Сказаў лісліва Авадзень,*
*Усеўшыся Валу на спіну: —*
*Як я цябе люблю! Які ты мілы!*
*Цябе я, сябар, да магілы*
*Ніколі не пакіну.*
*Я ўсюды за цябе пайду —*
*У агонь, і ў нетру, і ў ваду.*
*Цяпер жа вось да стойла давяду.*
*Але чаму такі ты злосны?*
*— Адстань, пракляты крывапівец!*
*І без цябе мне млосна,*
*Цябе ж я ведаю, паршывец! —*
*Сказаў сярдзіта Вол ў адказ.*
*Патом*
*Хвастом*
*Па спіне — раз! —*
*Зваліўся той, як сноп, далоў...*

*Нямала ёсць павадыроў,*
*Якія любяць люд працоўны*
*За тое толькі, безумоўна,*
*Што любяць яго кроў.*
*Прамоў тых здрадніцкі-ўрачыстых*
*Даволі чулі мы і ад фашыстаў.*
*Але яны даждуцца дня —*
*Змахнуць і іх, як Авадня.*

### Мандат

*Аслу раз выдалі мандат, —*
*Няйначай, памылкова.*
*(Такія і ў людзей памылкі — не наўда,*
*Але аб іх пасля размова).*
*Ад шчасця гэтага ў Асла,*
*Аж галава кругом пайшла,*
*І вылецеў з яе апошні розум —*
*Як п'яны стаў Асёл, хоць быў цвярозым:*
*Такога ўраз задаў разумнік тону,*
*Такога шуму нарабіў, такога звону,*
*Што не спрачаліся жывёлы ані крышку*
*І палічылі ўсе Асла за шышку.*
*— Ну й розум! Вось дык галава! —*
*Не раз гучалі хвалы словы.*
*Другі дык ледзь не цалаваў*
*Капыцікі асловы.*
*А "галава" з мандатам у паўметра*
*Стаіць над яслямі ў хляве:*
*Ніводнай думкі ў галаве —*
*Жуе сабе авёс, псуе сабе паветра.*
*Пры гэтым бедныя жывёлы*
*І чхнуць баяцца без дазволу.*
*Адзін вось толькі Лыска,*
*Калі Асла пабачыць блізка,*
*Заўсёды брэша: "Гаў-гуў-гуў!*
*Цярпець я дурня не магу!"*
*Ды Лыска той сядзеў на ланцугу.*

*Бывае іншы раз і з нашым братам,*
*Што галаву заменьваюць мандатам,*
*Ды мы справаджваем такіх аслоў*
*Без лішніх слоў.*

### Дэкрэт

*— Здароў, Максім!*
*Забыўся, брат, на нас зусім.*
*Расказвай, што чуваць.*
*— Браточак, не магу!*
*— Ты мо сюды адпачываць?*
*— Ды не, бягу!*
*Я жду бяды з усіх бакоў.*
*— А што з табою? Можа, не сакрэт?*
*— Ды ў цэнтры (чуў мо?) выдалі дэкрэт*
*—*
*На мяса здаць усіх быкоў,*
*Якім мінула дзесяць год.*
*Пастой... Прысядзь ды вытры пот...*
*Дык ты ж чаго падмазаў пяты?*
*— А мне ўжо бачыш, дваццаць пяты,*
*Дык страх такі напаў, не ведаю, дзе дзецца*
*— Не разумею я... То ты ж не бык, здаецца,*
*І не ўцякаць табе я моцна буду раіць.*
*— Яно то так, але ж — гады...*
*Каб не нажыць якой бяды.*
*Дэкрэты як у нас, часамі, разбіраюць?*
*Не разбяруцца, зловяць — чык,*
*Тады й даводзь, што ты не бык.*

## Из первых уст

*Владимир НАУМОВ:*

# "Нельзя сказать, что в расследовании "громких дел" мы достигли очень больших результатов...



***Министр внутренних дел Беларуси Владимир НАУМОВ, видимо, отреагировав на конструктивную критику "Народной воли", на сей раз встречался с журналистами не на "режимном объекте", куда пишущую братию впускают исключительно по спискам, а в Национальном пресс-центре. Пресс-конференция Наумова была посвящена Дню белорусской милиции. Однако "Народная воля", как, впрочем, и представители других изданий, задавали министру не только праздничные вопросы.***

**— Владимир Владимирович, из источников, заслуживающих доверия, журналистам стало известно, что в марте начнется суд над группой Игнатовича. Хотя он и не признается в убийстве Завадского и других людей, ему будет вынесен смертный приговор. Уже теперь для Игнатовича якобы готовится специальная камера. Но, судя по той же доверительной информации, приговор не будет приведен в исполнение — Игнатович обратится к Лукашенко, и тот его помилует. Сейчас в камеру к Игнатовичу подсажен человек, который ведет психологическую обработку в этом направлении. Вы можете подтвердить или опровергнуть этот сценарий?**

— Нет. Я могу опровергнуть эту информацию.

**— Полностью?**

— Полностью. Я не готов сказать, когда будет суд, так как это сейчас находится не в компетенции Министерства внутренних дел, следствие ведет не МВД. О том, что все произойдет так, я слышу впервые. И с полной ответственностью заявляю, что это совершенно не соответствует тому объективному процессу, который сейчас идет. Буквально недели две назад в одной из независимых газет я читал интервью с правозащитником Олегом Волчеком, который, опять-таки из достоверных источников, приводил пример, сколько человек задержано и каких служб эти сотрудники. Это тоже не соответствует действительности.

**— Вы наверняка знаете, что, по белорусским законам, оперативно-следственными функциями наделены структуры МВД, КГБ, Служба безопасности президента и некоторые другие. В то же время известно, что такая структура во главе с неким Васильченко ранее действовала в Совете безопасности, а с переходом Виктора Шеймана в прокуратуру перебралась туда. Вас как руководителя оперативно-следственной группы по раскрытию громких дел не беспокоит, что и Вы можете оказаться под колпаком этой группы?**

— Нет, не беспокоит. Я скажу так: те или иные подразделения, занимающиеся оперативно-розыскной деятельностью, крепки тем, что их действия не обсуждают. И информация, которая прозвучала из Ваших уст, — не более чем журналистская надумка.

**— Но Вы не опровергаете факт существования данной структуры?**

— Я бы не хотел здесь обсуждать с Вами свои подразделения, которые занимаются оперативно-розыскной деятельностью. И в первую очередь не из-за того, что я чего-то... Там работают живые люди. И, выполняя свои функциональные обязанности, они достаточно серьезно рискуют жизнью, противодействуя очень серьезным преступлениям. Предавать их деятельность широкой огласке... Ни в одной стране мира этого не делается. Ни в одной. Если Вы мне приведете пример, что в какой-то стране мира на пресс-конференции свободно обсуждают деятельность служб, ведущих оперативно-розыскную деятельность, я страшно удивлюсь. Это вопросы, которые, будем так говорить, кроме моральных нюансов, имеют чисто профессиональный аспект.

**— Есть ли какие-то новые факты в расследовании дела Дмитрия Завадского?**

— Дело Димы Завадского стоит на особом контроле. Прилагается довольно много усилий по его раскрытию. Не хочу искать себе оправдания, но, думаю, что *такие* дела требуют достаточно серьезного подхода и какого-то времени. Ни на один день не прекращается сбор материалов, рассматриваются самые различные версии. Особо подчеркиваю для "Народной воли" — мы не зацикливаемся на какой-то одной версии, которую нам как бы пытаются преподносить. Мы рассматриваем целый спектр версий, информацию собираем по крупицам. Но сегодня пока еще нельзя сказать, что в расследовании громких дел мы достигли очень больших результатов. Хотя лично я уверен, что все они будут доведены до логического завершения. Тогда, наверное, можно будет говорить о том, сколько труда сотрудниками органов внутренних дел и других правоохранительных органов было вложено, чтобы все-таки справедливость восторжествовала.

**— А что касается Виктора Гончара и Анатолия Красовского?**

— Я еще раз повторяю, что моя позиция — не сосредотачиваться на каких-то отдельных делах. На прошлой пресс-конференции я говорил: в минувшем году в республике без вести пропало около пяти тысяч человек. Из них четыре тысячи двести разысканы, а восемьсот до сих пор находятся в розыске. Я считаю, что розыск не должен вестись по принципу "этот более значимый, а этот — менее". У всех пропавших есть родственники, все они одинаково переживают... Между прочим, подразделение по розыску без вести пропавших мы увеличили практически в четыре раза. Мы понимаем, насколько важно найти каждого... Мне хотелось бы с вами общаться, не упираясь в какие-то персоналии.

**— И все-таки, в канун Дня белорусской милиции, может быть, скажете что-то конкретное о судьбе экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко?**

— Нет. Потому что прекрасно понимаю, как любое мое выражение может повлиять на то же следствие. Благодаря усилиям журналистов мне сегодня достаточно сложно работать с сотрудниками, которые этому влиянию подвержены. Потому что все эти версии, которые постоянно вбрасываются (мне даже сложно сказать, кем), так или иначе влияют на оперативных работников или следователей, которые ведут дела, и это в определенной степени их травмирует. А некоторые версии вообще вбрасываются чисто для того, чтобы увести от истины. Думаю, все понимают: пока преступление не раскрыто, пока суд не осудил виновных, все является тайной следствия.

**— Бывший сотрудник контрольно-ревизионного управления Министерства культуры Александр Грачев недавно публично отказался от своего интервью "Белорусской деловой газете". Напомним, что в интервью Грачев сказал, что его избивали сотрудники силовых структур, среди которых он узнал Валерия Игнатовича, проходящего по делу об убийстве Завадского. Со стороны Вашего ведомства последует какая-то реакция на заявления Грачева?**

— Я этой проблемой не занимаюсь, потому что в МВД такого уголовного дела нет. Лично меня неоднократно упоминали в этих разборах, которые существуют с Грачевым. Скажу честно, я первый раз увидел его по телевидению. Реакции со стороны МВД никакой не будет, это уголовное дело нами не расследуется. На мой взгляд, газеты "Свабода", "Народная воля" и "БДГ" в отношении этого дела как бы проводят свою, лично мне не совсем понятную линию...

**— А Вас не смутило, что после всего этого за защитой Грачев обратился не в МВД, а в КГБ? Не говорит ли это о том, что Вашему ведомству просто не доверяют?**

— У каждого из нас есть право выбирать, в какой орган обращаться по той или иной причине. Если есть какое-то недоверие к Министерству внутренних дел, обращаются в Комитет госбезопасности или в ту же прокуратуру. Еще раз повторяю: это право Грачева, и мне достаточно сложно объяснить, почему он обращается в ту или иную организацию.

*Владимир НАУМОВ также сообщил о судьбе некоторых оскандалившихся сотрудников Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД ("Народная воля" писала об этом в №39(1104):* "Сотрудники, совершившие разбой в одном из баров под Минском, уволены. Из моральных соображений уволились и полковники. Те сотрудники, которые все это совершили, уволены в дисциплинарном порядке, а руководителей попросили уйти на пенсию. Данное уголовное дело рассматривает прокуратура Минского района.

Что касается происшествия в Бресте, то сотрудник лежит в больнице, и пока я не могу принимать каких-то решений".

**Марина КОКТЫШ.**

**P.S. Есть надежда, что скоро читатели "Народной воли" смогут узнать некоторые малоизвестные подробности из жизни нынешнего министра внутренних дел. После пресс-конференции Владимир Владимирович пообещал автору этих строк в середине марта дать эксклюзивное интервью. Будем надеяться, что это было слово *НАСТОЯЩЕГО ГЕНЕРАЛА*.**

Народная Воля
3 САКАВІКА 2001 г.

Навіны

## Хто распачаў беспарадкі ў калоніі

**Пракуратурай Віцебскай вобласці ўстаноўлены вінаватыя ў арганізацыі беспарадкаў, што мелі месца ў выхаваўчай калоніі № 1 для непаўналетніх у Віцебску 5 студзеня. Як паведаміў БелаПАН памочнік генеральнага пракурора Аляксей Таранаў, — гэта двое асуджаных за цяжкія злачынствы: адзін — 1981-га, другі — 1984-га года нараджэння.**

Нагадаем, што беспарадкі распачаліся ўвечары 5 студзеня і былі спынены сіламі і сродкамі супрацоўнікаў выхаваўча-працоўных калоній №№ 1 і 3, следчага ізалятара № 2, а таксама сіламі мясцовага АМАПа толькі раніцай наступнага дня. Падчас спынення супрацьпраўных дзеянняў зняволеных пацярпелі чатыры кантралёры і двое падлеткаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Юліі Чыгір не дазволена абараняць сына

**Юліі Чыгір пакуль адмоўлена ў допуску да абароны свайго сына Аляксандра Чыгіра.**

Нагадаем, што Аляксандр Чыгір быў затрыманы 10 лютага. Яму прад'яўлена абвінавачанне ва ўчыненні крадзяжу арганізаванай групай або ў асабліва буйных памерах — частка 4 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса. Аляксандр Чыгір і яшчэ адзін арыштаваны, Сяргей Каляда, займаліся продажам аўтамабільных дэталяў на аўтарынку. Паводле версіі следства, некаторыя з гэтых дэталяў былі быццам зняты з выкрадзеных аўтамабіляў.

Юлія Чыгір двойчы — 11 і 28 лютага — падавала заявы з просьбай дапусціць яе да абароны сына, адпаведныя заявы напісаў і Аляксандр Чыгір. Частка 3 артыкула 44 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь абвяшчае, што, "па пастанове органа, які вядзе крымінальны працэс, або па хадайніцтву падазронага або абвінавачваемага, у якасці абаронцаў могуць быць дапушчаны блізкія сваякі або законныя прадстаўнікі падазронага або абвінавачваемага".

## Святкаванне 83-й гадавіны абвяшчэння БНР

**У дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі — 25 сакавіка — у Мінску адбудуцца шэсце і мітынг.**

На першым пасяджэнні аргкамітэта вырашана, што месцам збору дэманстрантаў стане Юбілейная плошча. Потым дэманстранты па вуліцы Мельнікайтэ і праспекце Машэрава пройдуць на плошчу Свабоды, дзе адбудзецца мітынг. Плануецца, што ўдзел у ім возьмуць каля 7 тысяч чалавек. Збор удзельнікаў назначаны на 12 гадзін. Усё гэта будзе выкладзена ў заяўцы ў Мінгарвыканкам, якую павінны падпісаць 100 чалавек — кіраўнікоў і актывістаў палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў.

Галоўнымі 25 сакавіка стануць лозунгі ў падтрымку незалежнасці Беларусі, супраць стварэння саюзнай дзяржавы. Арганізатары святкавання не выключаюць, што ўлады будуць супрацiўляцца правядзенню мерапрыемстваў апазіцыі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Туркі аднавілі "Журавінку"

**Урад Беларусі гарантуе замежным прадпрымальнікам захаванасць інвестыцый, а таксама падтрымку ў ажыццяўленні іх дзейнасці, накіраванай на карысць Рэспублікі Беларусь.** Пра гэта заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын 1 сакавіка на адкрыцці сталічнага комплексу "Журавінка", адноўленага і рэканструяванага турэцкай фірмай "Мінселка".

Кіраўнік урада адзначыў, што рэканструкцыя турэцкай фірмай комплексу "Журавінка" — сур'ёзнае інвесціраванне сацыяльнай сферы Беларусі, і назваў гэтую падзею "знакавай". Ярмошын таксама паведаміў, што турэцкі бок возьме ўдзел у рэканструкцыі яшчэ двух аб'ектаў у Мінску — гасцініц "Мінск" і "Свіслач". Разглядаюцца і іншыя праекты інвестыцыйнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Турцыяй, адзначыў Ярмошын.

Для наведвальнікаў комплекс адкрываецца з 3 сакавіка. Да іх паслуг будуць рэстаран "Журавінка", рэстаран хуткага прыгатавання ежы "Гасцінец", кафэ-бар "Ласунак", дыскатэка, боўлінг і фітнес-цэнтр, салон прыгажосці. Комплекс таксама разлічаны на правядзенне банкетных мерапрыемстваў на 300—450 персон.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Расійскія стаўкі пошлін на нафту

**З 1 сакавіка ў Беларусі ўведзены расійскія стаўкі экспартных пошлін на нафту і нафтапрадукты. Такім чынам, пошліны на нафту павысіліся больш чым у два разы. За вываз адной тоны сырой нафты цяпер прыйдзецца плаціць 48 еўра (раней было 20). Пошліна на дызельнае паліва складае 39 еўра, на мазут — 31 еўра.**

Павышэнне пошлін не прывядзе да скарачэння аб'ёму экспарту нафты і нафтапрадуктаў з рэспублікі, лічаць у Міністэрстве эканомікі Беларусі, паколькі экспарцёрам будзе кампенсаваны падатак на дададзены кошт, які яны ўплачваюць Расіі пры вывазе сырой нафты. Кампенсацыя будзе ажыццяўляцца на мытні на аснове дакументаў аб уплаце ПДК.

Па ацэнках Міністэрства фінансаў Расіі, з-за розніцы ў мытных пошлінах расійскі бюджэт страчваў на беларускім экспарце нафты ад 70 да 100 мільёнаў долараў у год.

**БелаПАН.**

Судьбы людские

# Божья клятва

## В подземном переходе на "Немиге" погибла старшая дочь Белицких. А через год и три месяца после трагедии в семье родилась Елизавета

В квартире Белицких пахнет манной кашкой и выстиранными пеленками. Из детской комнаты доносится голос маленькой Лизочки. 30 февраля ей исполнилось полгода. Она появилась на свет спустя год и три месяца после страшной трагедии, которая случилась в минском метро 30 мая 1999 года. Среди тех, кого оплакивала тогда вся страна, была и Ксения Белицкая, старшая сестра Лизы.

Мы разговариваем с мамой малышки — Светланой Витальевной. С Лизочкой возится средняя дочь Белицких — Вероника. Глава семейства Анатолий Васильевич — на работе. "Когда погибла Ксюша, Вероника замкнулась в себе, — рассказывает Светлана Витальевна. — Я рожала Лизочку в первую очередь для нее".

Так она говорит. Но я вижу, я чувствую, рожала она для себя, для всех. Когда-то сказала себе, что в ее семье будет несколько детей — как обет себе дала.

Первый месяц после трагической смерти Ксюши Светлана Витальевна не находила себе места. Иной раз боялась выйти на балкон, чтобы не смотреть вниз. Каждое утро просыпалась с мыслью, что все случившееся — страшный сон, что в ее семье ничего подобного не могло произойти. Но открывала глаза — а рядом на стуле черный платок. Небольшой кусочек материи возвращал в страшную действительность.

Все время она задавала себе вопрос: "Почему именно с нами? За что?". И ответа не находила. "Я понимаю, что мы не безгрешны, но не настолько, чтобы Всевышний забрал нашу Ксюшеньку".

Через месяц после трагедии Светлана Витальевна решила: рожу девочку. Маленькую, похожую на Ксюшу. И имя ей придумала: Оля. В память о лучшей Ксюшиной подружке Олечке Никитенко. В тот страшный майский день они были вместе. И вместе погибли на роковых ступеньках "Немиги". Светлана Витальевна, когда забеременела, просила у Олиной мамы разрешения назвать свою будущую малышку именем ее дочери. А потом, когда уже подошел срок рожать, сестра сказала, что в память о трагически погибшем человеке нельзя называть ребенка: судьбу может повторить. "Возможно, все эти приметы — ерунда, но, когда один раз переживешь подобное горе, рисковать боишься", — смахивая слезу, говорит Светлана Витальевна...

После трагедии она стала суеверной, в каждой мелочи ей виделся знак свыше. Когда хоронили Ксюшу и ездили в ЦУМ выбирать платье, к Светлане Витальевне подошла в магазине женщина и сказала: "У вас погибла дочь на "Немиге", но вы не убивайтесь так, у вас ведь есть еще две дочери. И добавила: "Вы Богом отмеченная..." Через несколько дней после похорон Ксюши в квартире Белицких поздним вечером раздался телефонный звонок. Звонившая женщина представилась участковой медсестрой, назвала какую-то фамилию. "Вы не туда попали", — ответила Светлана Витальевна. "Как не туда? У вас же родилась двойня". Светлана Витальевна положила трубку и к мужу: это еще один знак, я должна родить.

Когда делилась своими мыслями со знакомыми, некоторые ее отговаривали: "В твоем возрасте рожать? Зачем? У тебя же есть еще одна дочь". Другие женщины спрашивали: "Не страшно в такое время?" — "Это уж как-нибудь", — отмахивалась Светлана Витальевна. Разве было ей когда легко? Муж военный, она - медицинский работник. По общежитиям и квартирам с общей кухней сколько пришлось мотаться, пока появилось свое жилье. Просто все от жизни хотят разного.

Когда Светлана Витальевна узнала, что беременна, радовалась, как маленькая. Но потом были одни волнения: что с ребенком — родится нормальным и родится ли вообще? Честно говоря, страх не покидал ее вплоть до самих родов. Она, медицинская сестра, понимала, что рожать в 40 лет небезопасно.

Всю беременность Светлана Витальевна лежала на сохранении. Врачи опасались за ее здоровье, здоровье будущего ребенка. При поздних родах риск родить малыша с пороками развития возрастает в несколько раз. На Западе беременным женщинам, особенно тем, кому за 30, врачи сразу ставят условие: чтобы новорожденный получил медицинское страхование, пройдите диагностику плода. А у нас сделать анализы на выявление патологии у будущего малыша невозможно: нет реактивов. Даже за деньги анализ не делают. Подумать только, в Беларуси — с нашей экологией, питанием, условиями жизни — и нет самой современной диагностики плода. Такое безразличие к будущим гражданам страны на государственном уровне!..

УЗИ показало, что будет девочка. Вероника, узнав эту новость, улыбалась: иначе и быть не могло. Она очень хотела, чтоб родилась сестричка, и просила назвать ее Ксюшей. Но мама объясняла: "Ксюша у нас одна, другой уже не будет..."

Светлана Витальевна рожала раньше срока. Ей делали кесарево. Девочка родилась слабенькая. Домой Светлана Витальевна не звонила. Боялась, вдруг с малышкой что-нибудь случится. Решила подождать пару дней: пусть окрепнет. "Я раньше думала, что детям легко при кесаревом. Но, оказывается, нет, ребенок очень тяжело переносит наркоз", — вспоминает Светлана Витальевна. На 12-е сутки их выписали.

Имя новорожденной дала Вероника. Малышку, которая появилась на свет 30 августа 2000 года, назвали Елизаветой...

"Лиза похожа на свою бабушку, — листает домашний альбом Светлана Витальевна. — Но и Ксюшины черты есть. Посмотрите. Улыбки одинаковые". Она протягивает мне фотографию, где запечатлена полугодовалая Ксюша. Ей так хочется, чтобы они были похожи...

Мы долго разговариваем. И я не знаю, о ком она говорит больше: о Ксении или о Лизе.

— Когда ходила беременная, все время думала: рожу девочку и частичка Ксюши вернется. А Ксюша пришла ко мне во сне и говорит: нет мама, это другой ребенок... Ксюша снится мне очень часто. Был период, когда снилась каждый день. Помню такой сон: я стою в церкви, смотрю на росписи на стенах и среди ликов святых вижу изображение Ксюши. Я спрашиваю у нее: "Дедушка с тобой?" А она говорит: "Нет, он пониже, а мы между ним и Богом". Она теперь как ангел. Они все — ангелы. Вы посмотрите, какие дети погибли!.. Пусть бы в переходе хотя бы мемориальную доску с их именами повесили, чтобы можно было прийти, зажечь свечу...

Когда мы узнали о трагедии на "Немиге", муж с другом сразу среди ночи поехал в 10-ю больницу. Никогда там не был, адреса не знал, дорога сама привела. Поднялся в приемный покой, а ему говорят: посмотрите в морге. Зашел туда, там 4 трупа. Он сразу Ксюшу узнал. Она лежала, как живая...

Родилась Лизочка, и я думаю: были бы у меня три дочери... Говорят, время лечит. Не знаю, может быть. Меня — нет. Ко мне не пришло успокоение. Забот сейчас много, днем отвлекаюсь от мыслей, а ночью кормлю Лизочку и думаю о Ксюше...

На кладбище хожу к ней как в гости. Мы никогда не говорим в семье, что едем на кладбище. Едем к Ксюше. Мечтаю, что Лиза вырастет, и мы с ней вместе сходим к Ксюше...

Светлана Витальевна плачет, прижимая к себе маленькую Лизу. "Всем миром ее растим", — целует она свою младшую дочурку. Потом долго молчит.

— Когда ходила беременная, детских вещей не покупала, — рассказывает Светлана Витальевна. — Боялась. Примета есть такая. Моя коллега по работе меня поддерживала, помогала. Говорила: не волнуйся, я все подготовлю. Так и было: она все вещи собрала и привезла в роддом.

Мы с мужем из Украины. В Беларуси у нас нет родственников. Но есть настоящие друзья. Мы никогда не хотели отсюда уезжать. Учили белорусский язык. Ксюша его очень любила, на вступительных экзаменах в техникум сдавала белорусский язык. Вероника до этого года училась в белорусском классе, сейчас — в математическом. У нее способности к математике...

Когда Лиза родилась, мы лежали с ней в палате на первом этаже, и ко мне постоянно шли знакомые... Я была так счастлива. А когда выписались, шли к нам домой и несли, что могли: детскую коляску, манеж, ползуны...

Сейчас мы ездим с Лизой на массаж в поликлинику. Я после операции еще не окрепла, не могу снести коляску на первый этаж. Когда муж на работе, приходит крестная, крестный. Отпрашиваются с работы и бегут мне помочь...

Материально, конечно, нам нелегко. До Нового года пособие на ребенка было 7 тысяч. За эти деньги можно купить только пару пачек питания. Сейчас, говорят, 19 тысяч, но я еще не получала.

Я знаю, что материальные проблемы всегда будут возникать.

Но деньги — не самое главное. Пусть Лиза не получит высшего образования, пусть среднее. Главное, мы дали ей жизнь, и она сама будет ею распоряжаться.

...Имя новорожденной дала Вероника. В переводе с древнееврейского Елизавета — "божья клятва, обет Богу".

**Мария ЭЙСМОНТ.**



*Три сестры: Вероника, Лиза... Ксения всегда с ними.*

## На сердце печаль...

Здравствуйте, дорогая редакция газеты "Народная воля"!

Я ваш постоянный читатель. А потому решил написать именно вам. Дело в том, что у меня после второго инсульта умерла жена. Ей было только 43 года, и я остался один. На сердце боль, тоска, печаль... Может, найдутся родственные души и кто-либо напишет мне. Я отвечу на все письма, на все вопросы.

Мой адрес: **222836, Минская обл., Пуховичский район, п/о Турин, ул.Садовая, 5-1.**

**Анатолий ВЕРЕСКОВСКИЙ.**

Жыццё

## Атрута ў харчовай упакоўцы

Днямі карэспандэнты Рацыі высветлілі дзіўную рэч: у мінскіх крамах выстаўлена на продаж вялікая колькасць прадуктаў, тэрмін спажывання якіх ужо скончыўся. Карэспандэнты Рацыі і самі былі здзіўлены вынікамі свайго рэйду па мінскіх крамах. Практычна ў кожнай краме, якую мы наведалі, знайшліся прадукты, тэрмін спажывання якіх ужо сышоў. Мы і раней ведалі, што дарагія прадукты, з-за іх кошту не карыстаюцца вялікім попытам і таму вельмі доўга чакаюць свайго пакупніка, - да той пары, пакуль не сапсуюцца.

Аднак высветлілася, што ў крамах можна знайсці танныя, т. зв. сацыяльна значныя сапсаваныя прадукты харчавання. Мы знайшлі непрыдатныя да спажывання малако і смятану, а таксама сушкі, яблычнае павідла. Танныя каўбасы выглядалі так, што жахліва было нават падумаць, што іх можа нехта з'есці. Літаральна ў кожнай мінскай краме можна знайсці няякасныя прадукты.

Кіраўніцтва гандлёвых кропак павінна пазбаўляцца ад старых тавараў. Нікога не цікавіць, якім чынам адміністрацыя гандлёвай кропкі гэта робіць. І ніхто не кампенсуе страты гандляроў. Таму атрымліваецца, што непрыдатныя да ўжытку прадукты трапляюць у кафетэрыі крамаў.

Напрыклад, распавядаюць, што са старых курэй нярэдка вырабляюць смажанкі. На кірмашах таксама трэба ўважліва выбіраць тавары, там бываюць не толькі старыя прадукты харчавання, але і пратэрмінаваныя тавары бытавой хіміі.

**Аліна ІСАКОЎСКАЯ.**
*Радыё "Рацыя".*

## Беднасць вымушае купляць сапсаванае

Эпідэміёлагі Мінска заклапочаны з прычыны частых выпадкаў рэалізацыі тавараў, тэрмін захоўвання якіх скончыўся. Летась прадстаўнікі санітарных службаў знайшлі ў выніку рэйдаў больш за 22,5 тоны няякаснага тавару. Больш за ўсё прэтэнзій санэпідэміёлагі маюць да вырабаў з малака, якіх было сканфіскавана каля 6 тон. Прыкладна столькі ж было забракавана мяса і мясапрадуктаў. Да таго ж у крамах было знойдзена больш за 500 кг рыбы звыш 3 тон напояў, якасць якіх не адпавядала нормам.

Аднак рэгулярныя праверкі не даюць значнага эфекту. Як лічаць санітарныя ўрачы, у гэтым вінаваты больш за ўсё пакупнікі, якія не звяртаюць увагі на тэрміны захоўвання прадуктаў.

Эпідэміёлагаў вельмі здзіўляе, што грамадзяне іншым разам добраахвотна купляюць нясвежыя, але танныя прадукты. Аднак, як папярэджваюць супрацоўнікі гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, правілы катэгарычна забараняюць прадаваць пратэрмінаваную прадукцыю за любы кошт.

Таму ў кожным выпадку, калі крама гандлюе няякаснай прадукцыяй, трэба звяртацца на санэпідэмстанцыю, якая павінна рэагаваць на кожную скаргу грамадзян. Іншых метадаў барацьбы з парушальнікамі правіл няма. Санітары не здольны пракантраляваць тэрмін рэалізацыі кожнага прадукту. Да таго ж адказнасць за гандаль няякаснай прадукцыяй не вельмі суровая: дырэктару крамы або таваразнаўцу пагражае ўсяго толькі штраф у памеры ад 5 да 30 мінімальных заробкаў. Праўда, калі ў гандлёвую кропку прыйдзе праверка Дзяржкантролю крама рызыкуе страціць за парушэнне ўмоў гандлю выручку ад рэалізацыі ўсёй партыі.

**Марына МАЛАДЗЕВІЧ.**
*Радыё "Рацыя".*

## Трэці сектар пад прыцэлам

**26 лютага ўвечары ў Рэчыцы абрабаваны пакой мясцовага аддзялення абласнога грамадскага аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы".**

У Рэчыцы "Грамадзянскія ініцыятывы" арандуюць пакой у памяшканні прадпрымальніка Уладзіміра Васільева. Раней тут наогул знаходзілася інфекцыйная бальніца.

Прыкладна а 21-й гадзіне вартаўнік прыйшоў на службу і здзівіўся: дзверы памяшкання былі ўзламаны. 62-гадовы вартаўнік ледзь паспеў ступіць у калідорчык, як атрымаў моцны ўдар у твар. Рабаўнік накінуўся на вартаўніка і стаў душыць яго. Апошні даў адпор нахабніку. Няпрошаны госць кінуўся наўцёкі. Вартаўнік па тэлефоне звязаўся з міліцэйскай аховай. Яна побач, і ахоўнікі з'явіліся на месца здарэння літаральна праз дзве хвіліны.

На вуліцы яны знайшлі кінутую сумку з двума скрадзенымі камп'ютэрамі. Побач на снезе ляжалі прынтэр і сканер. Хвілін праз 10—15 ахоўнікі на аўтамашыне затрымалі і рабаўніка.

Рэчыцкая міліцыя трымае ў сакрэце яго імя. Але з дасведчаных крыніц удалося даведацца, што затрыманы — 28-гадовы гамяльчанін Віталь В.

Якім чынам ён патрапіў у Рэчыцу, пакуль невядома. У горадзе ж "Грамадзянскія ініцыятывы" ведаюць як рэсурсны цэнтр для многіх грамадскіх суполак. Літаральна два дні таму тут праводзіўся семінар па стратэгічным планаванні з удзелам Карла Янсана — прадстаўніка няўрадавай арганізацыі "Сава" з Нідэрландаў.

Дарэчы, такі ж семінар ладзіўся і ў Гомелі. І вось што характэрна. Пасля яго невядомыя (ці невядомыя) таксама спрабавалі абрабаваць абласны офіс "Грамадзянскіх ініцыятыў". Нават выбілі акно, але зноў-такі натыкнуліся на вартаўнікоў.

— Не лабаюся такога слова, — выказвае свой погляд на падзеі намеснік кіраўніка аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы" Уладзідзімір Кацора, — гэта спланаваная ўладамі акцыя. Гэта бачна, і добра бачна, з тых пагромаў, якія пачаліся на Берасцейшчыне, потым на Віцебшчыне і зараз дакаціліся ўжо да Гомеля. Калі не атрымалася абрабаваць наш офіс, дабраліся да Рэчыцы. Адначасова Беларускае тэлебачанне распачало такі прапагандысцкі, гебельсаўскі наезд на трэці сектар, на грамадскія арганізацыі. Гэта — жаданне ўлад выбіць нас з працоўнай каляіны.

Уладзімір Кацора перакананы, што акцыя запалохвання правалiцца.

**Віктар КУЗЬМЯНКОЎ**

## Траянскі конь у Доме літаратараў

**Як "чарговую правакацыю ўлад" расцэньваюць у кіраўніцтве Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) спробу стварыць на базе Дома літаратараў у Мінску Рэспубліканскі дом творчых работнікаў.**

Даручэнне аб стварэнні на базе Дома літаратараў Рэспубліканскага дома творчых работнікаў даў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка па выніках нарады "Аб мерах па вырашэнні праблем развіцця культуры і мастацтва", якая адбылася 1 лютага. Кіраўнік дзяржавы распарадзіўся, каб урад унёс свае прапановы на гэты конт у першым паўгоддзі.

Рэалізацыя ідэі, лічаць у кіраўніцтве СБП, стане тым траянскім канём, які канчаткова пахавае надзею Саюза пісьменнікаў вярнуць сваю ўласнасць.

Нагадаем, што 1 ліпеня 1997 года па распараджэнні прэзідэнта Дом літаратараў быў перададзены пад аператыўнае кіраванне Кіраўніцтва справ прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "у мэтах забеспячэння эфектыўнасці выкарыстання дзяржаўнай уласнасці". Разам з тым, як лічаць у СБП, гэты будынак, што пабудаваны на сродкі пісьменнікаў і з'яўляецца уласнасцю саюза, ніяк не можа лічыцца ўласнасцю дзяржавы. Кіраўніцтва саюза спадзявалася. што зможа выкарыстаць сродкі, атрыманыя ад перадачы ў арэнду памяшканняў Дома літаратараў, для матэрыяльнай падтрымкі пажылых пісьменнікаў (з 594 членаў саюза 231 старэйшы за 60 гадоў). Зараз жа, калі СБП сам карыстаецца памяшканнямі Дома літаратараў на ўмовах арэнды, у кіраўніцтва саюза практычна адсутнічаюць сродкі для грашовай дапамогі пісьменнікам і накіроўвання іх у творчыя камандзіроўкі па рэгіёнах краіны. "З моманту перадачы нашага будынка ў падпарадкаванне Адміністрацыі прэзідэнта мы вымушаны хадзіць з працягнутай рукой па розных арганізацыях і выпрошваць грошы на набыццё самых неабходных прадуктаў — мукі, крупаў і цукру для пісьменнікаў, якія маюць вострую патрэбу ў гэтым", — зазначылі ў сакратарыяце СБП.

Такім чынам, канстатуюць у гэтай грамадскай арганізацыі, пад маркай стварэння на базе Дома літаратараў Рэспубліканскага дома творчых работнікаў Саюз беларускіх пісьменнікаў канчаткова пазбавяць магчымасці вярнуць будынак ва ўласнасць. Бо ўсе прэтэнзіі пісьменнікаў на Дом літаратараў, сёння звернутыя да Адміністрацыі прэзідэнта, "заўтра могуць ператварыцца ў разборкі паміж рознымі творчымі аб'яднаннямі".

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН..**

# Маленечкая кропелька пад дулам аўтамата

## Я быў 12-гадовым рабом у фашыстаў

**Віталь ГАЛАВАЧ, пісьменнік.**

12 жніўня 2000 года ў Германіі ўступіў у сілу закон аб заснаванні фонду "Памяць, адказнасць і будучае".

З выступленняў старшыні аналагічнага беларускага фонду В.Я.Герасіменкі па радыё і ў друку вынікала прынцыповае патрабаванне мець "бездакорныя" доказы, дакументальныя пацвярджэнні таго, што "ты", "я" — з'яўляемся ахвярамі нямецкага нацыянал-сацыялізму. Шкада толькі, не было сказана, што павінна ў тых "бездакорных" дакументах пацвярджацца. І што рабіць тым, у каго няма ніякіх дакументаў, а яны з'яўляюцца ахвярамі нямецкага нацыянал-сацыялізму? Напрыклад, сем'і падпольшчыкаў, якіх праследавалі фашысты, дзеці забітых партызан, падпольшчыкаў?

Пра гэтыя сем'і добра ведалі нямецкія акупацыйныя ўлады і, як зараз высветлілася, нічога не ведала наша вельмі дарагое начальства і не менш дарагія архівы. А можа, не хацелі ведаць?!

У адной з радыёперадач старшыня Фонду распавядаў пра тое, што за ўсе сем гадоў, як ён займаецца гэтай справай, былі толькі два выпадкі, калі грошы атрымалі без дакументальных пацвярджэнняў. Адзін з гэтых выпадкаў не захаваўся ў маёй памяці, а другі моцна засеў у галаве, і вось чаму.

Малому хлопчыку немец стрэліў у галаву. Куля засталася ў галаве. Былі сведкі. Хлопчык застаўся жыць. А калі не ў галаву стрэлілі, а ў нагу? І калі куля не засталася ў целе? Калі адзінымі сведкамі былі нямецкія параненыя салдаты, якія ўсчалі вэрхал, калі пабачылі хлопчыка, які цягнуў апухлую цяжкую нагу да іх, у шпіталь? Другімі сведкамі могуць быць начальнік гэтага шпіталя, гаўптман медыцынскай службы, хірург і яго ці то намеснік, ці то асістэнт, оберлейтэнант медыцынскай службы...

Я ніколі не ведаў іх прозвішчаў, іх імёнаў. Але ўсё жыццё помню іх, дзякаваў ім. Першага арыштавала СД, другі — оберлейтэнант — плакаў, пагладжваючы мяне па галаве, і спалохана праводзіў праз чорны ход, каб не пабачылі параненыя гітлераўцы.

Можа, пашукаць іх у Германіі?! Гэта ў нас у выніку палітычных і эканамічных эксперыментаў над людзьмі сярэдняя працягласць жыцця чалавека складае недзе 59—60 гадоў, а там, у Германіі, — пад сотню.

Яшчэ ў знакамітай "Зялёнай папачцы" з "Плана Барбароса" — даваеннай распрацоўкі захопу Савецкага Саюза — было зазначана: "В Белоруссии будет, вероятно, нелегко в ближайшее время найти руководящий состав, который бы лояльно работал на нас... С другой стороны, **необходимо** найти путь для использования в наших интересах запасов скота, ячменя, лошадей, древесины и т.д." (Нюрнбергский процесс. Сборник материалов в трех томах. — М., 1965. Т.1. С.179).

Гэта ў тэорыі. На справе ж аказалася, што захопнікі сутыкнуліся з праблемамі пошуку не толькі кіруючага складу, але і проста рабочых рук. Хаця трэба адзначыць, што былі і добраахвотнікі розных прафесій ад паліцаяў да прастытутак у салдатгаймах і афіцэргаймах.

Не ведаю, чаму я шмат разоў трапляў у жандарскі пастарунак, дзе камплектавалі партыі моладзі для адпраўкі ў Германію. Звычайна мяне адпускалі. Запісвалі адрас, прозвішча, імя, пыталіся пра дзень нараджэння, мацалі калі-нікалі мускулы, рагаталі і адпускалі. Але аднойчы пасадзілі ў каляску матацыкла і прывезлі ў Бабруйскі рачны порт. Перадалі з рук у рукі зондару (зондэрфюрэру, гаспадарніку, каменданту порта), папярэдзілі, што калі ўцяку, заб'юць усіх блізкіх — тату, маму, брата, сястрычак.

Вось так я апынуўся ў "мяху", ці турэмнай камеры, як лічылася афіцыйна. Мяне там пратрымалі дні два ці тры, а потым перавялі на стапяцідзесяцітонную баржу, новую, толькі спушчаную на ваду, але дужа дзіравую. Я адкачваў з яе ваду да знямогі, пакуль не падаў. Першы рэйс у якасці і матроса, і шкіпера (адначасова) быў у Ялізава. Туды — бітае шкло, адтуль — шклатару для гідролізнага завода... Другі рэйс у Шацілкі, дакладней — на возера Белагор'е па дровы. Тады ж, пасля вяртання ў Бабруйск, і закончылася навігацыя ў далёкім сорак першым.

Было мне тады ўсяго дванаццаць год з хвосцікам. Спачатку немцы звалі мяне "кляйне швайн" ці "кляйне гунд", а потым ужо, у сорак другім і ў сорак трэцім, — "кляйне партызан". Абражалі. І не толькі. Каталі. Адкуль я ведаў, хто навёў партызанаў на баржы, якія згарэлі, як вялізныя паходні?! Пасля таго як партызаны спалілі баржы, мяне перавялі на газаход матросам. Барані бог каму-небудзь спазнаць, што гэта такое! Па ўсёй верагоднасці, нада мною немцы праводзілі эксперымент — колькі "кляйне гунд унд кляйне партызан" зможа вытрымаць без яды, без апранахі, без нічога ў гэтай плаваючай труне?

...Неяк у адзін з чарговых маіх заходаў у офіс Фонду "Узаемапаразумення..." кансультант у файе, прагледзеўшы мае дакументы, параіў звярнуцца ў прыёмную, каб унесці дакументы ў камп'ютэр. А там, у прыёмнай, нейкі зухаваты дзядзька як адрэзаў:

— Мы деньги платим только интернированным.

Я яму кажу, што да паступлення ў партызанскі атрад працаваў матросам на газаходзе.

— Ну и что? — кажа ён. — Работал так работал.

Якая розніца, панове, ці інтэрніравалі, ці на месцы выкарыстоўвалі ў якасці беларускага раба? А калі ёсць розніца, дык усё ж такі на карысць апошняга.

Нас забіралі, каб знішчыць. Маму, сясцёр, брата. Хацелі і мяне. Мы павінны былі памерці ў Майданеку.

Вось маленечкі дакуменцік, кавалачак з допыту Ганса Коха, оберлейтэнанта войск СС:

"**Пракурор**: ...Эти люди были отправлены для того, чтобы их уничтожить в Майданеке?

**Кох**: Это было сделано на основании приказа, изданного Гитлером или Гиммлером в 1943 году, в котором указывалось о необходимости уничтожить все население, которое имеет какое-либо отношение к партизанам или имеет связь с партизанами, а также партизанские семьи, для того чтобы приостановить партизанское движение". ("Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии", Минск, Главиздат Министерства культуры БССР, 1963, с.321).

У той дзень, калі арыштавалі родных, па мяне ў порт прыйшлі паліцаі. Але я ад іх уцёк. Не ведаючы, што маіх блізкіх няма, няма нікога, я прыбег дадому. Дзверы і аканіцы крыж-накрыж забіты дошкамі з аб'явамі: "Уваход забаронены. Занята нямецкімі ўладамі!".

Некалькі сутак мяне хавалі ў хляве суседзі. Я бачыў праз шчыліны ў даху, як рабавалі нашу кватэру немцы. Капітальна рабавалі. Паадчынялі вокны, дзверы, падагналі крытыя брызентам грузавікі і пачалі выносіць і грузіць на тыя грузавікі мэблю, адзенне, посуд, літаратуру — усё, нават кухоннае начынне і фіранкі з вокнаў паздымалі, знеслі палавікі. Потым узяліся за дровы, нарыхтаваныя на зіму, разабралі і пагрузілі на тыя грузавікі і саму адрыну.

Хаваць мяне бясконца суседзі не маглі, рызыка была вельмі вялікай. І дзецца мне таксама не было куды. Вырашыў пранікнуць зноў у порт і схавацца ў баржы, сплысці куды-небудзь з Бабруйска. Гэта была мая вялікая памылка. Я трапіў да немцаў у мястэчку Свіслачы, непадалёк ад Ялізава. Дзён пяць ці шэсць мяне білі так, што страчваў прытомнасць. Яны адлівалі мяне вадой і зноў білі. Нічога не дамогшыся, вырашылі павесіць. Ды я ўцёк. Пралез праз краты на другім паверсе чырвонай вежы і скочыў уначы на зямлю. 12 верасня 1943 года я быў у партызанскім атрадзе.

Па дарозе на шляху ў Майданек старэйшая сястра ўцякла з вагона і таксама прыйшла ў партызанскі атрад. Мама з малымі дзецьмі прайшла праз Майданек і Равенсбрук, прывезла дамоў паласатую робу. Малых з Майданека адправілі для правядзення эксперыментаў у дзіцячы канцэнтрацыйны лагер у г.Лодзь, адкуль іх і вызвалілі войскі Чырвонай Арміі. А тату немцы дасталі ў атрадзе. Ён загінуў 17 ліпеня 1943 года.

Прашу нямецкі Фонд "Памяць, адказнасць і будучае" Федэральнага ведамства па ўрэгуляванні адкрытых пытанняў па маёмасці, што ў Берліне (10117, Маўэрштрассе, 39—40), а таксама Вашу партнёрскую ўстанову — Фонд "Узаемапаразумення і прымірэння" (Мінск 220013, вул.Я.Коласа, 39а), кампенсаваць мне:

1. Забойства таты. Яго падазравалі ва ўдзеле ў Супраціўленні. Але гэтае "супраціўленне" стварылі самі немцы. Начальнікам штаба атрада, які меркавалі вывесці ў лес, быў супрацоўнік СД Жорж Фат. Некаторыя ўдзельнікі гэтай групы таксама былі завербаваныя нямецкімі спецслужбамі. Фактычна яны выконвалі заданне фюрэра: "16 июля 1941 года в присутствии Розенберга, Кейтеля, Ламмерса, Бормана Гитлер прямо заявил: "Партизанская война имеет и свои преимущества для нас, она дает нам возможность истреблять все, что восстает против нас". ("Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии", Минск, 1963, с.14)

2. Прымусовае выкарыстанне мяне, падлетка, у якасці раба на знясільваючай рабоце, да таго ж часта з рызыкай для жыцця, на працягу двух гадоў.

3. Абрабаванне ўсёй маёмасці, якую набывалі бацькі за 15 гадоў сумеснага жыцця. (Ці варта даказваць факт абрабавання, калі з шасці чалавек сям'і трое збеглі да партызанаў, а трое былі вывезены ў Майданек для знішчэння ў газавых камерах?!)

## Ограбили "вертикальщика"

Новополоцкая газета "Химик" сообщила об ограблении дачи одного из "вертикальщиков" Полоцкого района. Из "фазэнды" чиновника среднего звена воры умыкнули: холодильник, морозильник, видеомагнитофон, несколько ковров, электросамовар, куртку из овчины, набор хрусталя, кофейный и чайный сервизы, спальное белье, несколько сотен килограммов... мяса, несколько ящиков тушенки, водки, шампанского и другого вина и т.д. Больше половины ценностей хранилось в упаковках.

Оперативников особенно удивило, при помощи какого транспорта этот груз можно было стибрить за один раз...

Братва гульнет нехило!

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

